Oplata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 36 (88) | Вільня, 31-га сьнежня 1935 г. | Год 3-ці.

# З НОВЫМ ГОДАМ!

## ЗА ГОД.

„Мінулага ня вернеш!" кажа народная прыказка, але нярэдка і няхочацца каб яно вярнулася.

Відаць гэтае нежаданьне аднасіцца да ўсяго мінулага— ці то прыемнага, ці няпрыемнага. Як ведама часу ані паўстрымаць ані вярнуць нельга і дзеля гэтага здарэньні і зьявішчы **ня могуць быць паўтораны** ў такіх самых абставінах **ніколі**.

І мы ня будзем жадаць каб тое, што перажылі ў мінулым 1935 годзе паўтарылася.

Бяручы агулам у адносінах да шырокіх масаў усяго сьвету, мінулы год нічым добрым не адзначыўся. Ад поўначы на поўдзень і ад усходу на захад мінулы год прайшоў неспакойна. Апрача дакучлівага ўсясьветнага эканамічнага крызысу, большасьць народаў мела свае цяжкія перажываньні.

Для прыкладу ўспомнім хоць-бы тое, што ў мінулым годзе пачалася крывавая італьянска-абісінская вайна, ня меншыя, толькі ўнутраныя, пэртурбацыі перажыла як ведама і Грэцыя — перш няўдалая рэвалюцыя, а пасьля—рэстаўрацыя манархіі.

Побач з гэтым на Далёкім Усходзе Японія амаль што цалком захапіла Кітай. У сучасны мамэнт яна ўжо пануе над такімі паўночна-кітайскімі правінцыямі як Гапэй, Чагар, Шантунг, Суй-Юан ды Шансі. Фактычна Нанкін і Токіо апрацавалі кітайска-японскі антысавецкі ваенны саюз, па катораму нанкінскі ўрад „прадае" японскаму пераможніку ўвесь Кітай.

Польшчу ў гэтым годзе сустрэла так сама вялізарнае няшчасьце — адыйшоў зусім Той, хто зьяўляецца фактычным тварцом яе незалежнасьці.

У палавіне 1935 году Польшча апынулася без свайго правадыра, а пэўная частка польскага грамадзянства, лічучы сябе спадчыцай Народнага Героя, пачала кіраваць Дзяржаваю, але ўсё-ж-такі ўжо на новых падставах.

Падставы гэныя, апрацаваныя найбліжэйшымі супрацоўнікамі нябошчыка Маршалка Пілсудскага, выяўлены ў новай Канстытуцыі з 23 красавіка 1935 г.

У сучасны мамэнт дзяржаўнае жыцьцё Польшчы якраз кіруецца гэнаю новаю Канстытуцыяй. Дзяржаўная машына пастаўлена на новыя рэльсы, і імчыцца ў даль...

Дасюлешнія экспэрымэнты пакуль што вельмі дадатніх вынікаў не далі, але замала прайшло часу, каб магчыма было зрабіць нейкі конкрэтны вывад аб тых ці іншых магчымасьцях у будучыні.

Адно толькі можам ужо цяпер сьцьвердзіць, што ў галіне раўнавагі дзяржаўнага буджэту сучасны ўрад, дзякуючы спэцыяльнаму падатку, пакрыў дэфіцыт, каторы за 9 месяцаў выносіў аж 218 мільёнаў. Аднак раўнавага дзяржаўнага буджэту—далёка ня ўся дзяржаўная гаспадарка, а толькі першы неабходны этап да яе ўнормаваньня.

Побач з гэтым урадовая статыстыка дае проста жахлівыя сыгналы: узрост зімовага безработцьця павялічыўся на 40.000 чалавек, а наагул пазбаўленых працы налічваецца сёньня аж 349.000. Ці пры такіх варунках можна лятуцець аб перамозе крызысу?

У гэтых асабліва цяжкіх абставінах трэба запрэгчы да працы абсолютна ўсё грамадзянства. Неабходны надзвычайны высілак, здольнасьць да найбольшых ахвяраў ды энтузьястычная вера ў лепшую будучыню ўсіх грамадзянаў Польскае Рэспублікі бяз розьніцы нацыянальнасьці і веравызнаньня! Паўстае пытаньне ці новы ўрад здольны будзе разбудзіць усё гэнае ўва ўсім грамадзянстве?

Пакуль што новыя кіраўнікі Польскае Дзяржавы, па падставе створанай імі Канстытуцыі, ужо цалком выэлімінавалі з Польскага Дзяржаўнага Прадстаўніцтва адну нацыянальную групу — Беларусаў. Ані ў Польскім Сойме, ані ў Польскім Сэнаце Беларускага прадстаўніцтва няма, не зважаючы на тое, што Беларусы становяць ня менш $^1/_{10}$ часткі ўсяго насельніцтва Дзяржавы.

Ці гэты новы курс польскай дзяржаўнай палітыкі паслужыць для ўзмацаваньня Дзяржавы—сказаць не бярэмся. Думаем аднак, што зроблены ён быў насьпех і неабдумана.

У сваім часе мы пісалі напр. аб новым школьніцтве, сыгналізуючы небясьпеку і аказалася, што нашыя засьцярогі былі слушныя. Па двох гадох практыкі пераканалася ўрэшце ў гэтым і школьная ўлада і польскае грамадзянства. Ці станецца тое самае з крыўдай, зробленай у 1935 годзе Беларусам—пакажа будучыня

Гэтым, зразумела, мы ня хочам звальваць усю віну выключна на польскі ўрад і полькае грамадзянства, бо-ж і само беларускае грамадзянства таксама часткова вінавата ў стварыўшайся сытуацыі.

Усё выказанае і змушае нас жадаць як найхутчэй пазбыцца ўсяго таго, што нам прынёс адыходзячы ў вечнасьць 1935 год

Новаму 1936 году жадаем быць больш справядлівым ды разважным!

## Вучыся, нябожа!

Да навукі павінен імкнуцца кожны чалавек, калі хоча быць дастойным гэтага высокага назову. Ступнёва, паволі, дзень за днём, год за годам, тысячагодзьдзе за тысячагодзьдзем нарастала людзкая веда аб прыродзе, аб акружаючых зьявішчах, аб самім сабе, аб людзкіх фізычных і псыхічных перажываньнях. Веда гэная, сабраная вялікімі людзкімі высілкамі, складалася ў вялікую скарбніцу—кнігу.

Праз кнігу наступныя пакаленьні маглі даведацца аб тым, што зрабілі і чаго дасягнулі іх папярэднікі.

Кніга і толькі кніга пазволіла намісьці наперад ды адкрываць ўсё новыя і новыя шляхі ў змаганьні чалавека з жорсткімі зьявішчамі прыроды. Але ня кожны можа карыстаць з тых дасягненьняў, якія здабыла навука. Трэба ўмець бачыць тое, што зьмяшчаюць у сябе гэныя скарбніцы ўсялякае веды кнігі.

Трэба проста кажучы ўмець прачытаць тое, што напісана ў кнізе. А вучоныя кнігі, дзе схаваны найвялікшыя думкі найвялікшых гэніяў пішуцца часта нязвычайнымі літарамі, а ўмоўнымі знакамі. Кожная галіна веды мае свае ўмоўныя знакі. А каб навучыцца гэных знакаў хутка, не марнуючы дарма часу, існуюць як ведама школы, дзе спэцыяльна прыгатаваныя да гэтага людзі вучаць дзяцей вельмі хутка таму, што без помачы школы вымагала-б з аднаго боку шмат часу, а з другога часта і зусім было-б не пад сілу.

Але ўсей гэтай мудрасьці можна навучыць толькі тады, калі вучань будзе разумець мову свайго вучыцеля.

Вось дзеля чаго *патрэбна кожнаму дзіцяці яго родная школа!*

Дзеля таго, каб навучыць дзіця нейкай навукі ў чужой мове, трэба перш навучыць яго разумець чужую мову, а гэта справа нялёгкая. Але разумець мову, гэта яшчэ далёка ня ўсё — трэба умець і паслугоўвацца ёю. Вось дзеля чаго тыя дзеці, якія вучацца ў роднай школе, бываюць шмат больш разьвітыя ды лепш і хутчэй апаноўваюць розныя галіны веды чымсь тыя, што вучацца ў школе з няроднай выкладовай моваю.

Гэты *элемэнтарны закон* пэдагогікі даўно зразумелі ўсе культурныя людзі ды лічаць яго такім-жа неабходным у навучаньні, як неабходна для чалавека паветра.

*Дамагацца роднае школы — гэта права дзяцей ды сьвяты абавязак бацькоў.*

Бацькі Беларусы! Запамятайце гэта добра ды выканайце свой бацькоўскі абавязак! *Дамагайцеся для сваіх дзяцей Беларускай Школы*

Польскія школьныя ўлады публічна заяўляюць, што не даюць беларускіх школаў толькі таму, што Беларусы іх не дамагаюцца.

Дык пакажэце, што Вы разумееце гэтую элемэнтарную пэдагогічную неабходнасьць для сваіх дзяцей і *складайце дэклярацыі на беларускую школу!*

Калі Вы ўжо гэнае рабілі ды вашых жаданьняў ня споўнілі, дамагайцеся нанова! *Што год, што месяц, што дзень паўтарайце свае дамаганьні, бо гэта Вашае права, як грамадзян і абавязак, як бацькоў!*

Памятайце, што кожны, хто будзе ставіць Вам перашкоды, зьяўляецца ворагам ня толькі Вашым, але і Дзяржавы. Падавайце прозьбішчы такіх шкоднікаў у газэту, а верце, што пры вялікім жаданьні вашыя дамаганьні будуць споўнены! „Стучэце і адчыніцца Вам!"

*Эра.*

Прысылайце падпіску на газэту „РОДНЫ КРАЙ".

## Будова і рэмонт дарог у Польшчы

Да 1-га лістапада сёл. году ў Польшчы пралажана 1.333 кілёмэтры шосаў, у гэтым ліку 336 кілёмэтраў дзяржаўных дарог. Бэтонных, клінкерных і інш. дарог 415 кілёмэтраў. Збудована 4.500 дзеравяных мастоў і 400 мэтраў жалеза-бэтонных.

Апрача таго зроблена рэмонту на дарогах на працягу 2 777 кілёмэтраў, у некаторых месцах папраўлена 6.365 кілёмэтраў дзяржаўных дарог і 6.365 кілёмэтраў дарог самаўрадавых. Папраўлена 16 000 мэтраў дзеравяных мастоў і 1.300 мэтраў мастоў жалезных. А на камунальных дарогах папраўлена 23.000 мэтраў дзеравяных мастоў і 100 мэтраў жалезных.

# З працэсу аб забойстве міністра Перацкага.

У 1932 г. абвінавачаны Малюца быў пасланы ў Прагу і там сустрэўся з Бараноўскім і Канавальцам.

Затым Малюца расказвае пра работу ОУН, яе структуру і сувязь з загранічным цэнтрам.

Абвінавачаны ведаў, што пасьля забойства мін. Перацкага прыехаў нейкі невядомы ў Львоў і ён яго сустрачаў. Аб тым, што гэта забойца міністра абв-ны дагадваўся. Незнаёмы сказаў яму, што паведамленьні прэсы аб тым, што забойца ўцёк, згаджаюцца з праўдаю. Заявіў таксама, што ён зрабіў усё, каб бомба разарвалася, а калі гэта не ўдалося, дык рашыў страляць. Пасьля ён адстрэльваўся ад паліцыянта. Затым незнаёмы казаў абвінавачанаму, што ён хоча ўцякаць з Польшчы і што тут няма магчымасьці хавацца. Пазьней абвінавачаны даў яму 35 ці 40 злотых на ўцяканьне ў Чэхаславакію. Пасьля Малюца сустрэўся з Бараноўскім, якому сказаў, што тут знаходзіцца забойца мін. Перацкага і хоча ўцякаць загранiцу. За два дні да свайго арышту абвінавачаны даведаўся, што незнаёмы, аказаўшыся Мацейкай, перайшоў на чэхаславацкі бок.

Далейшыя паказаньні Малюцы датычаць падрыхтоўкі замаху на Бабія і іншых тэрарыстычных актаў.

На пытаньне абаронцы, што змусіла яго даваць цяпер паказаньні, Малюца адказвае, што ён лічыць мэтоды ОУН няправільнымі і шкоднымі для украінскага народу, бо мэтоды гэтыя прывялі да таго, што стралялі ня толькі ў палякоў, а і ў украінцаў. Паказаньні свае абвінавачаны, паводле яго словаў, дае не дзеля апраўданьня, бо апраўдацца ён ня можа і зьяўляецца „скончаным чалавекам". Хай тыя, каго ён, абвінавачаны, угаварваў працаваць у ОУН, задумаюцца цяпер над яго словамі, каб у будучыні не дайсьці да гэткага палажэньня, у якім знаходзіцца цяпер ён сам і іншыя. Гэта ні ў чым ня зьменіць палажэньня украінскага народу. Працуючы ў ОУН, ён і тады не згаджаўся з яе мэтодамі, але не выступаў з сваімі сумляваньнямі, хоць у часьці і ўплываў на іх зьмягчэньне.

У пачатку паседжаньня 5-га гэтага сьнежня, прэзэс суда констатуе, што 3-га чысла абв. Карпынэць, у той час, калі яго ўводзілі ў судовую залю, трымаўся няпрыстойна ў адносінах да канваяваўшых яго паліцыянтаў. Дзеля гэтага суд прапануе абвінавачаным трымаць сябе, як трэба, каб ня змушаць суда накладаць на іх прадугледжаныя законам кары. Пасьля прэзэс агалошвае паказаньні Малюцы з папярэдняга паседжаньня і прапануе абвінавачаным даць дадатковыя выясьненьні.

Абв. Бандэра прабуе нешта гаварыць паукраінску. Прэзэс пазбаўляе яго слова. Дзеля таго, што, ня гледзячы на гэта, Бандэра гаворыць далей, прэзэс загадвае вывясьці яго з залі. Бандэра працівіцца паліцыі, але яго выводзяць.

У часе перарыву абв. Карпынэць прабуе крычаць нешта паукраінску і яго выводзяць з залі. Па ўзнаўленьні паседжаньня, прэзэс суда заяўляе, што абв. Бандэра, ня гледзячы на неаднакротныя ўвагі суда, некульні разоў рабіў дэмонстрацыі. Дзеля гэтага суд выдаляе яго з залі на два дні. Абвінавачаным пазваляецца задаваць пытаньні Малюцы. З некалькімі пытаньнямі зьвяртаецца да яго абв. Мыгаль.

У часе допыту сьведкаў, сьведка Чайкоўская адмаўляецца даваць паказаньні папольску, хоць гаварыць папольску яна ўмее. Суд аддае распараджэньне арыштаваць яе. Паліцыя выводзіць сьведку з залі, а суд агалошвае яе паказаньні, дадзеныя на сьледзтве.

У наступны дзень на паседжаньні суда выслухана была заява Алены Чайкоўскай, якая выказала жаданьне даваць паказаньні папольску. Прэзэс распарадзіўся выклікаць яе ў суд.

Далей быў выслуханы сьведка Івасык. Дзеля таго, што ён даваў супярэчныя і блутаныя паказаньні, пракурор Жэленьскі заявіў, што сьведку Івасыка трэба псыхіятрычна зрэвідаваць.

Сьведка Яраслаў Макарушка заяўляе, што належаў да ОУН, дзе яму даручана было весьці аддзел консьпірацыйна-разьведачнага навучаньня. Далей сьведка дае паказаньні, супярэчныя з яго-ж паказаньнямі, даванымі на ўступным сьледзтве. Дзеля гэтага суд пастанаўляе прачытаць гэтыя апошнія. Тады—на сьледзтве — Макарушка паказваў, што ён скончыў консьпірацыйныя курсы ОУН, на якіх выкладалі вайсковую справу. Затым яму пачалі даваць сур'ёзныя і адказныя паручэньні. Паміж іншым сьведка паказаў на ўступным сьледзтве, што краёвым кіраўніком ОУН быў Сьцяпан Бандэра, а арганізацыйным рэфэрэнтам Іван Малюца, рэфэрэнтам прапаганды Яраслаў Спольскі, ідэолёгічна-палітычным Яніў, апошнім-жа часам Стэцко. Краёвы кіраўнік („провідник") назначаўся загранічнаю ўладаю ОУН і кіраваў усім рэвалюцыйным рухам на г. зв. землях Заходняй Украіны, атрымліваючы інструкцыі з заграніцы. Краёвы выканаўчы камітэт меў толькі дарадчы голас.

Пасьля прачытаньня паказаньняў Макарушкі, прэзэс задаў яму рад пытаньняў, з адказаў на якія сьведкі вынікала, што ён адмаўляецца ад сваіх ранейшых паказаньняў, у якіх ён казаў пра арганізацыйны контакт з Бандэрай, Малюцай, Янівам і інш. і пра удзел у паседжаньнях краёвага выканаўчага камітэту.

У суботу 7-га сьнежня цікавымі былі паказаньні сьведкаў: Жолондка, Мар'і Бэр (Behrowej) і інш.

Сьведка Блажэй Жолондэк — возны прытулішча з Вольскае вул., а Мар'я Бэр—загадчыца гэтага прытулішча.

Яны паказалі, што 12 чэрвеня 1934 г. зьявіўся ў прытулішча малады чалавек, паказаў пашпарт на імя Ольшанскага, выданы ў Львове, заплаціў наперад за тры ночы, пакінуў Мар'і Бэр на пераханьне 57 злотых, гадзіньнік і портфэль. У дзень забойства Ольшанскі выйшаў з самае раніцы; спачатку ён пакінуў пальто і капялюш у вознага, кажучы, што рэчы гэтыя забярэ адна жанчына, але пасьля зьмяніў гэтае рашэньне і пальто ды капялюш забраў. Па прапазыцыі пракурора Жэленьскага сьведцы М. Бэр паказваюць 4 фатаграфіі Мацейкі, на аднэй з якіх сьведка знаходзіць падобнасьць да Ольшанскага. Таксама сьведка Жолондэк сьцьвярдзіў, што паказанае яму пальто Мацейкі гэткага самага колеру, як і пальто Ольшанскага, тое самае датычыць і портфэлю, а капялюш дык у Ольшанскага быў, як сьведцы здаецца, крыху сьвятлейшы.

*Пракурор*: Пры якім сьвятле сьведка бачыў капялюш?

*Сьведка*: Гэта было ў цёмным пакоі.

Адвакат Шлапак прапануе паказаць сьведцы капялюш у цямнейшай часьці залі суда, дзе сьвятло было-б гэткім самым, як у тым цёмным пакоі. Жолондэк адыходзіць у куток і кажа, што пры гэтым сьвятле капялюш таго самага колеру, што і капялюш Ольшанскага.

Пасьля палудзеннага перарыву, паказаньні дае сьведка Юзэфа Кушэўская, служанка п. Кашэр, у якой пражываў абв. Лэбэдь пад прозьвішчам Сварычэўскага. Сьведка кажа, што Лэбэдь падобны да таго Сварычэўскага; у дзень забойства Сварычэўскі вярнуўся на кватэру а гадз. 18 моцна знэрвованым. Нясучы ваду ў шклянцы, разьліў яе, а на пытаньне, што з ім такое, адказаў: „Я знэрвованы, бо забілі міністра". На другі дзень рана, калі Кушэўская занясла яму сьнеданьне, дык Сварычэўскага ўжо ня было ў пакоі, бо ён выйшаў з кватэры незаўважаным.

Сьведка паліцыянт Тжцiньскі паказвае, што, стоячы на пасту перад міністэрствам унутраных справаў, бачыў Лэбэдя, які колькі разоў круціўся каля будынку міністэрства.

Далей дае паказаньні сьведка Ярмолік, служанка Ванды Шыманскай, у якой наймала ў Варшаве пакой Гнаткіўская пад прозьвішчам Квяцінскай.

Сьведка Вошчатыньскі, уласьнік гандлёвага бюра „Polkomis", праз пасярэдніцтва якога Лэбэдь наймаў у Варшаве кватэры, дакладна ня помніць сваіх паказаньняў, дзеля чаго яны адчытваюцца з актаў. Сьведка паказаў тады, што ў траўні 1934 г. да яго зьявіўся малады чалавек, каторы прасіў паказаць яму пакой у цэнтры гораду. Суб'ект гэты назваўся Сварычэўскім і атрымаў кватэру у п. Кашэр на Кошыковай вул. На другі дзень той самы чалавек прыйшоў старацца пакою для свае нарачонае, якая атрымала пакой у Шыманскай на Служэўскай вул. Сярод абвінавачаных сьведка пазнае Лэбэдя і Гнаткіўскую, як кліентаў яго бюра.

Сьведка Аляксандар Корчык, шофэр таксоўкі, расказвае, што 15 чэрвеня 1934 г. ён стаяў з сваім самаходам на рагу вул. Солец і 3-га Мая. Каля гадз. 16-е ў таксоўку сеў нейкі знэрвованы малады чалавек, які загадаў завязьці яго на вул. Тамка, 44. Сьведка затрымаўся пад гэтым адрэсам, які знаходзіцца напроці сходкаў, што вядуць з Ордынацкай вуліцы. Сьведка заўважыў недалёка паліцыянтаў і агентаў тайнае паліцыі, з чаго зрабіў вывад, што нешта здарылася. Пасажыр яго тымчасам, зьлезшы з самаходу, пачаў нецярпліва разглядацца навокал. Прыглядаючыся цяпер да абвінавачаных, сьведка Корчык пазнае ў асобе Лэбэдя свайго таямнічага пасажыра.

(Працяг будзе).

## Новая газэта.

24-га гэтага сьнежня выйшаў № 1 новае часопісі „Наша Воля", якая мае падзагаловак: „беларускі двутыднёвы часапіс".

Стыль і карэктура проста нешта „ахаўскае". Кірунак нявыразны. Адказны рэдактар і выдавец Вінцэсь Склубоўскі. Есьць цікавыя дысонансы: у той час, як у корэспондэнцыі з Горадзеншчыны нехта Іскра прабірае аднаго з блудных абмаскоўленых сыноў

Ідэ.

# Навагодняя казка.

Ноч — —

Белы месяц выплывае з-за дамоў і бяжыць між хмарак, спыняецца ў разрывах, і ізноў бяжыць, як-бы сьпяшаецца кудысь, як-бы даганяе кагось, як-бы гуляе з лебядзіным стадам маразяных воблакаў.

Над Базыльянскімі мурамі бяжыць усё месячык. Асьвячае нямыя будыніны, заглядае ў цёмныя куткі, халодным, іскрыстым сьнегам пераліваецца ў шыбах.

Чытач! Зьбліжаецца дванаццатая гадзіна... Хутка ў заснуўшым паветры задрыжаць мерныя ўдары гарадзкога гадзіньніка. Мы тут павінны ў гэтую пару пабачыць нешта фантастычнае... Тут усё абвеяна сівой мінуўшчынай, кожная цэгла, кожная дрэва—сьведка старых часоў. Будзь уважны ў гэтым месцы ў поўначы!

Вось, глядзі...

Там, у ніжнім паверсе, у закратаваных вокнах — як-бы нейкі рух. У водблесках-пералівах месяца блішчыць нібы зброя, здаецца, стуль даносіцца нейкі гоман.

Сьпяшайма туды! У гэтую навагоднюю ноч мы пабачым фантастычную казку.

— —

Затаіўшы дыханьне, ухапіўшыся за ваканіцу — мы абярнуліся ў слух і зрок. І нас усё больш абхапляе зьдзіўленьне.

О, дзіва! Там, дзе стаялі розныя хвігуры і статуі — пуста. Сьцены, на якіх віселі партрэты і абразы, — голыя. Музэй перамяніўся ў нейкі вялікакняжацкі салён. Расьцьвілі выблекшыя ўзоры на тканінах і крэслах. Усё зьзяе, блішчыць, пераліваецца жывымі колерамі.

О, дзіва! Па салёне ходзяць нейкія людзі. Мы прыглядаемся бліжэй і пазнаем нашых слаўных продкаў. Вялікія князі, канцлеры, мітрапаліты, архіепіскапы, баяры, мяшчане... Усе ходзяць аб нечым ажыўлена гавораць. Да нас далятаюць часам абрыўкі іх гутарак. — Хутчэй! Бяжыце ў суседні пакой, адчыняйце шафы з вопраткамі...

Хутчэй! Бяжыце...

Праз адчыненыя дзьверы відаць, як вопраткі надзьмуваюцца, напаўняюцца і з шафаў выходзяць элегантныя напалеонаўскія афіцэры з прастрэленымі чэрапамі. Яны пастукваюць шпорамі і ветліва вітаюцца:

— Бон-жур, мэс'е!

Раптам раздаюцца галасы:

— Да зброі! Да зброі!

Усе кідаюцца ў арсэнал і хапаюць дамаскія шаблі са сьценаў, кремневыя стрэльбы і пісталеты.

З зброяй у руках усе зыходзяцца на сход.

Увага!

Мітрапаліт благаслаўляе сабраных...

Выходзіць наперад вялікі князь...

Раптам чуецца з суседніх дзьвераў стук.

Гэта з сенцаў. Усе хапаюцца за аружжа.

— Хто там? — пытае князь.

— Упусьцеце! Гэта я, Францішак Скарына, доктар лекарскіх і вызваленых навук—чуецца мягкі тэнар. Ці-ж вы забыліся, што мой партрэт вісіць у гэтым кутку.

— Ха-ха-ха — узрадаваліся духі.

Уваходзіць наш слаўны Францішак Скарына, тоўсьценькі чалавек невялікага росту, падобны па фігуры да Дварчаніна. У руках ён трымае пяты нумар „Iskraŭ Skaryny" і „Малую падарожную кніжыцу".

— Там так холадна — адазваўся Скарына і пачаў хлопаць рукамі, як звычайна гэта робяць людзі паспалітыя.

Паседжаньне адчыніў вялікі князь.

— Пачну словамі нашага слаўнага поэта Я. Купалы: „Сумна мне, сумна, што ўсё тут іначай"...

— Так, грамадзяне, паскудныя насталі часы. „Проста плач бярэ і сьмех", як сказаў Я. Колас. Вынік 1935 году вельмі сумны. Беларусь надалей падзелена. Усюды нас „б'юць і плакаць не даюць", хоць з гэтай прыказкай я-б ня зусім згадзіўся, бо плачам мы хіба вельмі шмат. Грамадзянства нашае грызецца між сабой да апошняга. Усюды занятад.

Выступіў Францішак Скарына: — Мы выслухалі словы праўды. Гляньма на беларускае пісьменства, навуку — У. Ігнатоўскі страляецца; вучоныя беларускія раскі—даюцца па ўсіх кутках Расеі. Тарашкевіч вучыцца страляць. П. Мятла гадуе на заводзе коняў. І. Дварчанін—на Салоўках. А тут, у гэтым сьвятым месцы... замест навукі — інтрыгі. Студэнты нашыя галадаюць. Паэты і пісьменьнікі таксама.

Скарына закашляўся і ізноў пачаў грэцца. Далей прамаўляў Леў Сапега:

— Матэр'ялізм пранікае ўсё

ваньне настроена вельмі баёва і рыхтуецца пачаць кампанію у Манголіі ў вялікім маштабе. З Пэкіну паведамляюць, што японцы ўжо занялі горад Чжанбей, які знаходзіцца ў 48 кілём. на поўнач ад Калгана. Горад заняла мангольская кавалерыя, арганізаваная японскім камандаваньнем у Манджурыі. Кітайскія войскі адступаюць да Калгану. Пад Калганам вельмі напружанае палажэньне.

Адміністрацыйныя цэнтры 6 паветаў унутранай Манголіі заняты японска-манджурскімі войскамі.

——

Японская газэта „Асахі“ піша, што мін. замежных справаў Хірота загадаў японскаму паслу ў Кітаі Аріошы зьвярнуць увагу нанкінскага ўраду на ўзрастаючы анты-японскі рух ува ўсіх гарадох Кітая. Газэта цьвердзіць, што рухам гэтым кіруе нейкі лідэр нанкінскага ўраду, які зьвязаны з унівэрсытэтам у Пэкіне і дзеіць як агент нейкай замежнай дзяржавы.

Газэта „Іоміуры“ піша, што анты-японскі рух кітайскага студэнцтва цесна зьвязаны з кругамі Злучаных Штатаў і Англіі. У сувязі з гэтым японскія ўлады ўважаюць, што Злуч. Штаты і Англія маняцца такім спосабам спыніць офэнзыву Японіі ў Паўночным Кітаі.

——

Ангельскія газэты, паклікаючыся на вестку з Пэкіну, пішуць, што ўрад Савецкай Манголіі закрыў Мангольскую граніцу. Адначасна на граніцу высланы два палкі чырвонай кавалерыі і некалькі бомбавозаў.

Манджурскі ўрад са свайго боку прыступіў да павялічэньня сваіх сілаў каля Буінору.

## Англія ў сувязі з падзеямі на Далекім Усходзе

Лёндонскі корэспондэнт „Нэйе Фрэйе Прэссэ“ піша, што ангельскі ўрад даручыў сваім паслам у Пэкіне і Токіо прадставіць у найхутчэйшым часе даклад аб палажэньні на Далёкім Усходзе. Ангельскі ўрад апошнімі днямі выслаў дыплёматычнага наглядчыка у Цянь-Шань, дзе знаходзіцца кіраўніцтва належачых да ангельцаў кайланскіх вугальных шахтаў. Наглядчык мае сьцьвердзіць, якія стратэгічныя мэты мае Японія у Паўночным Кітаі і якія японскія пляны процiў Савецкай Расеі. Асабліва важным для Англіі зьяўляецца таксама сьцьверджаньне, ці будзе Японія прадаўжаць сваё наступленьне на поўдзень, дзе яна рана ці позна спаткаецца з ангельскімі інтарэсамі ў Кітаі.

Гэткія падзеі на Далёкім Усходзе могуць выклікаць і зьмену ангельскай арыентацыі ў міжнароднай палітыцы. Газэты ў Будапэшце пішуць ужо аб тым, што ў бліжэйшым часе можа быць заключаны саюз між Англіяй і СССР. Гэтая вестка мае вялікае значэньне для польскай палітыкі адносна Нямыччыны і Расеі. Па думцы шмат якіх дыплёматаў, у прыпадку далейшай сымпатыі Лявaля да Муссоліні, Францыя можа згубіць свой уплыў ня толькі сярод дзяржаваў Малой Антанты і балканскага блёку, але і ў Савецкай Расеі на карысьць Англіі. Адцягіваньне падпісаньня француска-савецкага дагавору давяло да таго, што Саветы зьвярнулі асаблівую ўвагу на Англію і сустрэлі там прыхільныя адносіны.

У пачатку сьнежня ў Лёндоне адбыўся „Конгрэс міру і прыязьні з СССР“ пры ўчасьці 800 чалавек, якія рэпрээзэнтавалі сабой 1 с пал. мільёна ангельцаў. Бяссумліўна, філёсавецкія тэндэнцыі ў Англіі ўзмацняюцца ў сувязі з назначэньнем на становішча міністра замежных справаў — Ідэна, які зьяўляецца заядлым праціўнікам гітлераўскай Нямеччыны і прыхільнікам зьбліжэньня з СССР. Супольнасьць інтарэсаў Англіі і Саветаў зьяўляецца рэзультатам японскай экспансыі ў Кітаі.

## Чуткі аб японска-нямецкіх перагаворах

У Лёндоне атрыманы весткі, што ў Бэрліне быццам пачаліся перагаворы між японскім ваенным аташэ і Рэйхсвэрам па пытаньні аб ваеннай конвэнцыі.

Перагаворы гэтыя ўжо на заканчэньні. Ужо, быццам, адбылося нават парафаваньне конвэнцыі. Адначасна з тайнай згодаю будзе падпісаны таксама дагавор аб супрацоўніцтве між Японіяй і Нямеччынай супроць Комінтэрну.

## Коаліцыя процiў Італіі.

Паводле лёндонскіх вестак у Анкары апошнімі днямі адбыўся абмен дыплёматычнымі нотамі між ангэльскім і турэцкім урадамі ў справе аказаньня Турцыяй аружнай дапамогі Англіі ў прыпадку міжземнаморскага конфлікту.

У паўофіцыяльных кругох цьвердзяць, што турэцкі ўрад разам з другімі сябрамі Балканскай Антанты даў прыхільны адказ на просьбу Англіі аб супрацоўніцтве.

## З абісінскага фронту

Офіцыяльна паведамляецца, што абісінскія войскі адабралі занятую некалькі дзён таму назад сталіцу Тэмбіена—Адзі-Аббі.

Горад быў узяты раптоўным штурмам, да якога італьянцы ня былі прыгатаваныя.

Паводле абісінскіх вестак, італьянцы панясьлі вялікія страты: 20 італьянскіх афіцэраў і падафіцэраў, шмат падафіцэраў каленіяльных войск. і каля 100 эрытрэйцаў трапіла ў палон. Абісінцы здабылі 12 кулямётаў. Італьянцы адыходзяць у напрамку Сьцірэ.

——

Парыжскае агентства „Гавас“ паведамляе з Адзіс-Абэбы, што захоп Адзі-Аббі зьяўляецца частковым выпаўненьнем пляну, апрацаванага абісінскім штабам. Плян гэты мае на мэце—выцiснуць італьянцаў з правінцыі Цігрэ.

Расы Сэйюм і Касса ў сучасны мамэнт маюць 50.000 ваякаў і могуць усьцяж нападаць на месцы распалажэньня італьянскіх войскаў, пэрашкаджаючы ім у наступленьні, а нават змушаючы іх адыходзіць і звужываць паўночны фронт.

Абісінцы ўсё часьцей карыстаюцца сваім найбольш любімым мэтодам вайны — раптоўнымі нападамі на паасобныя італьянскія атрады.

## Ідэн міністрам зам. спраў.

Дасюлешні ангэльскі міністар замежных справаў Хор змушаны быў падацца ў адстаўку. Гэта, пасьля Эррыё ў Францыі ўжо другая эўрапэйская ахвяра італа-абісінскага конфлікту.

На месца Хора назначаны міністрам замежных справаў Ідэн.

## Конфэрэнцыя афрыканскіх народаў дзеля падтрыманьня Абісініі.

Як перадае корэспондэнт „Таймса“ з Капштада ў Блемфонтэне адбылася конфэрэнцыя афрыканскіх народаў, на якой была прынята рэзалюцыя з самым рашучым пратэстам процiў нападу італіі на Абісінію. Рэзалюцыя заклікае ўсе афрыканскія народы зрабіць усе магчымае для падтрыманьня Абісініі і дамагаецца, каб Ліга Нацыяў застасавала ўсе санкцыі, а ў выпадку патрэбы з'арганізавала ваенны блёк процiў Італіі.

# Гаспадарчы аддзел.

### Як найлепей выкарыстаць багатыя бялком кармы.

Найлепшымі і найдаражэйшымі кармамі зьяўляюцца тыя, якія маюць у сабе шмат бялку.

З сустракаючыхся у нас найчасьцей кармоў багатымі ў бялок будуць зярняты і сена з расьлін матыльковых, да каторых належаць: канюшына, люцэрна, сэрадэля, віка, гарох, пялюшка і інш. Мусімо тут зазначыць, што сена з гэтых расьлінаў будзе мець шмат страўнага бялку толькі тагды, калі гэтыя расьліны не пeратрымаць на пні, а скасіць у адпаведны час. Пасьля сена з расьлін матыльковых, па колькасьці знаходячагася ў ім бялку, ідзе зараз-жа добрае мурожнае сена. Апрача таго, досыць значную колькасьць бялку маюць у сабе вотрубы і зярняты збожжа. Найбольшую колькасьць бялку з усіх пералічаных расьлінаў, маюць зярняты матыльковых расьлінаў: боб, гарох, віка і пасьля прыблізна такую самую колькасьць маюць у сабе бялку розныя жмыхі (макуха).

Дзеля чаго расьліны багатыя на бялок лічацца добрымі кармамі, вытлумачыць ня трудна. Цела кожнае жывёлы складаецца галоўным чынам з мяса, у якім бялок ёсьць найгалаўнейшай складовай часткай. Вось-жа, на вытвар мяса і наагул для аднаўленьня зужытых частак арганізму—патрабуе жывёла бязустанна бялку ў корме, бо бялку свайго цела жывёлы ня можа вытварыць ні з вуглягідратаў (крахмал, цукар), ні з жыроў. Справа так абстаіць толькі з бялкамі, бо жыр, прыкладам, можа вытварыцца ў целе жывёлы і з вуглягідратаў (крахмал, цукар) корму. Больш таго: самы-ж жыр і вуглягідраты могуць быць да пэўнае меры вытвараны ў целе жывёлы з бялку корму. Згэтуль відаць, што пэўная колькасьць бялкоў у корме для жывёлы ёсьць проста неабходнай і ня можа быць заменена нічым іншым. Праўда, гэтая колькасьць для рознага веку і стану жывёлы ня ёсьць аднолькавай. Для маладняку патрэбна бялку шмат, для дарослае жывёлы меней. Потым для прадуктыўнае жывёлы (прыкл. для дойных кароў) патрабуецца надбаўка бялку ў корме паводле вытваранага прадукту.

Доўгі час вучоныя паміж бялкамі не рабілі ніякае розьніцы і толькі зусім нядаўна ўстаноўлена, што ня ўсе бялкі маюць аднолькавую кармовую вартасьць. Трэба ведаць, што бялкі складаюцца з т. званых амінавых квасаў. Аказваецца, што ня ўсе амінавыя квасы расьлінных бялкоў патрэбны для жывёлы, а дзеля гэтага адны расьлінныя бялкі залічаны да поўнавартасных, а другія — да непоўнавартасных. Праўда, навука яшчэ цалком не дасьледзіла, якія амінавыя квасы патрэбны для жывёлы і ў якой меры, а якія не. Аднак і тое, што цяпер аб амінавых квасах ведама дае магчымасьць зрабіць дзе якія практычныя высн аўкі. Прыкладам ведама, што адзін з амінавых квасаў, так зв. лізін, неабходны для росту жывёлы і таму маладое жывёлы ня можна карміць такім кормам, у бялку якога няма лізіну (прыкл. у кукурузы) і наадварот: трэба даваць такі корм, у бялку якога шмат лізіну (бялок яек, альбумін малака).

Дзеля таго, што, як мы ўжо казалі, ня ўсе амінавыя квасы добра дасьледжаны, то кармовую вартасьць таго ці іншага бялку прыходзіцца ўстанаўляць досьледам і, якія ўсьцяж вядуцца рознымі інстытуцыямі.

Мак-Колум такія досьледы зрабіў над парасятамі. Дзеля таго, што азот ёсьць галоўным хімічным складнікам бялку, то Колум, на аснове сваіх досьледаў, вылічыў колькі азоту з розных кармоў перайшло на ўтварэньне мяса і аказалася што:

З сабранага малака было выкарыстана:

| | | |
|---|---|---|
| азоту . . . . . . . . | 66,2 | проц. |
| казеіну . . . . . . | 50,6 | „ |
| кукурузы . . . . . | 23,7 | „ |
| аўса . . . . . . . . | 28,3 | „ |
| ільнян. жмыхі (макухі) | 17,0 | „ |
| пшанічных зародкаў | 39,0 | „ |

Гэтыя дадзеныя нам паказваюць, як неаднолькава быў выкарыстаны парасятамі бялок розных кармоў. Апрача таго, далейшыя досьледы Колума паказалі і яшчэ адну цікавую рэч, а іменна, што бялкі, знаходзячыяся ў сумешцы некалькіх кармоў, былі парасятамі многа лепей выкарыстаны, чым у першым выпадку, калі кожны бялок скармляўся ўпаасобку. Аказалася, што калі парасятам давалі кукурузы $^1/_3$ + пшаніцы $^1/_3$ і + аўса $^1/_3$, то з гэтых кармоў адклалася азоту ў целе парасят 32,0 проц. Калі-ж давалі кукурузы $^3/_5$ + ільняное жмыхі (макухі) $^2/_5$, то выкарыстаньне азоту выносіла 37%.

Астатнія досьледы нас вучаць таму, каб мы жывёле давалі як найболей разнародных кармоў багатых у бялок і, што ў астатнім выпадку, гэтых кармоў можам даваць меней бяз шкоды для цела жывёлы ці колькасьці выдаванага жывёлай прадукту (пр. малака). Далей трэба сказаць, што наагул ня варта даваць жывёле багатага ў бялок корму болей, чым гэта неабходна жывёле для падтрыманьня жыцьця яе і вытвареньня прадукту, бо гэтая надбаўка дарагога корму прадукцыі ня звысіць і можа быць з вялікім пасьпехам заменена танным кормам, багатым у вуглягідраты (крахмал, цукар).

### Развядзеньне салодкага лубіну ў Польшчы.

Лубін ёсьць вельмі скромнай расьлінай. Дае багатыя ўраджаі і на кепскіх пяшчаных глебах. З усіх знаных у нас матыльковых расьлінаў лубін, асабліва жоўты, мае ў сваіх зярнятах найбольшую колькасьць бялку. У зярнятах жоўтага лубіну знаходзіцца 34,4% бялку, тады як боб мае яго толькі 22,1%, а гарох 19,4%.

Толькі што пералічаныя якасьці лубіну прамаўляюць за тое, што ёсьць сэнс яго разводзіць у шырокім маштабе і зярняты яго, з прычыны багатства ў бялок, ужываць на корм для жывёлы. Аднак тут ёсьць адна труднасьць. Лубін мае ў сабе пэўны шкодны алькалёід, якога мы можам пазбавіцца толькі тады, калі адгорчым яго. Найлепшы спосаб адгорчваньня — гэта гадзіну варыць яго і пасьля вымочваць ў вадзе да тае пары, пакуль ня страціць горычы. Працадура адгорчваньня ня толькі забірае час, але вымочваньнем адыходзіць з зярнят лубіну вялікая колькасьць пажыўных складнікоў.

Вось з гэтых астатніх прычынаў некаторыя вучоныя паставілі сабе за мэту выгадаваць такі лубін, які-б ня меў ў сабе горычы зусім, ці так зв. салодкі лубін. Гадоўлей гэтай займаліся ў астатнія гады вучоныя ў Нямеччыне і ў Саветах. У Нямеччыне салодкі лубін удалося выгадаваць праф. д-р. Баўэру і д-р. Зэнгбушу. У 1934 годзе зярно салодкага лубіну прадавалася ўжо ў Нямеччыне ўнутры краю, а цяпер дык вывозіцца і заграніцу.

У Польшчы залажылася спэцыяльная супалка для гадоўлі салодкага лубіну з сядзібаю ў Хойніцах. Супалка гэтая нядаўна закупіла ў Нямеччыне 200 цэнтнараў насеньня арыгінальнага салодкага лубіну. Калі-б салодкі лубін у нашых кліматычных умовах не выраджаўся, то гэта было-б вялікай здабычай для тутэйшых земляробаў,

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.